


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

TV плюс

12 кастрычніка 2001 года
№ 41 (338)
Выходзіць па пятніцах

## Навіны рэгіёна

### Будаўніцтва Дома культуры затухае

**МАЛАДЗЕЧНА.** Каля 300 мільёнаў рублёў запазычыўся заказчык "УКБ-Сервіс" будаўнікам за работы па Доме культуры. Гэтую лічбу назваў прараб будоўлі **Іван Русак**. У верасні сышлі амаль ўсе субпадрадчыкі, акрамя фірмы, якая ставіць вокны. А іншым няма работы, бо скончыліся матэрыялы, а з-за нехваткі грошай нельга купіць яшчэ. Цяпер на будоўлі працуе каля 25 чалавек. У лепшыя часы было 160 рабочых.

Будаўнікі гавораць, што калі цяпер тэрмінова не паставіць вокны і не падвесці ацяпленне, можа разбурыцца тынкоўка, і грошы, якія пайшлі на будоўлю, прападуць.

Пры цяперашнім фінансаванні нельга гаварыць пра здачу да канца года "пад ключ" клубнай часткі.

Апошні раз грошы на Дом культуры выдаткоўваліся перад выбарамі. Гэта былі 500 мільёнаў рублёў з рэспубліканскага рэзервовага фонду.

За кастрычнік будаўнікі плануюць завяршыць работы пад дахам. Цяпер займаюцца падрыхтоўчымі работамі для ўстаноўкі вокнаў. Але галоўнае – зрабіць цеплавузел.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Частка садка стане прытулкам

**ВІЛЕЙКА.** У сераду пачаліся работы па рэканструкцыі памяшканняў у дзіцячым садку №12, якія адведзеныя пад сацыяльны прытулак. На планах раённага аддзела адукацыі, які прафінансаваў будоўлю, выхаванцы засяляцца ў лістападзе.

Загадчыца садка **Святлана Карначова** гаворыць, што колькасць дзетак, якія будуць жыць у прытулку, будзе вядомая ў канцы кастрычніка.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Кірмашы ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА.** У суботу пройдзе першы з двух традыцыйных сельскагаспадарчых кірмашоў.

Як сказаў першы намеснік старшыні райвыканкома **Яфім Ідэльчык**, на кірмаш прыедуць прадпрыемствы з Маладзечанскага раёна. Будзе гарадскі гандаль. Пачатак а 9-й гадзіне.

Падобны кірмаш запланаваны на 27 кастрычніка.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Ашмянцы ў Курапатах

**АШМЯНЫ.** 15 ашмянцаў разам з беларусамі, якія жывуць у Літве (усяго 30 чалавек), наведалі ў суботу Курапаты.

У памяць пра людзей, якія загінулі ў выніку рэпрэсій, дэлегацыя паставіла 2 крыжы. Сваім наведваннем ашмянцы і жыхары Літвы выказаліся супраць расшырэння аўтамабільнай шашы, якая закране частку гэтага комплексу.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### На прадукты – 15 тысяч

**АСТРАВЕЦ.** За некалькі дзён да свайго свята настаўнікі атрымалі па 15 тысяч рублёў. У аддзеле адукацыі патлумачылі, што гэта грошы на набыццё прадуктаў. У раённым бюджэце не знайшлося грошай, каб выплаціць да свята зарплату за верасень.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Каб у Ізраілі ды Нарач

**МЯДЗЕЛ.** На тры дні прыязджаў да сваякоў **Мошэ Рамот** з Ізраіля. Займаецца ён там фермерствам. Бадай, найвялікшае уражанне на госця з беднай на ваду краіны зрабілі мясцовыя азёры. Гаварыў, каб у іх было дзве-тры Нарачы, то яны сельгаспрадукцыяй увесь свет завалілі б.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 13 кастрычніка

**Мінск**
2 – 3°С (уначы)
12 – 14°С (удзень)



**Вільня**
7°С (уначы)
14°С (удзень)



Нядзеля, 14 кастрычніка

**Мінск**
1 – 2°С (уначы)
10 – 12°С (удзень)



**Вільня**
1°С (уначы)
13°С (удзень)



■ ФЕСТЫВАЛІ

# Грай, гармонік!

**МАЛАДЗЕЧНА. 6–7 кастрычніка на Маладзечаншчыне прайшоў II абласны фестываль народнай музыкі "Грай, гармонік!". Першы фестываль праходзіў летась у Пухавічах.**

Спецыяльна для фестывалю дызайнерам **Сяргеем Пятровым** была распрацаваная эмблема. Кампазітар **Алена Атрашкевіч** у сааўтарстве з **Таісай Трафімавай** напісала песню «Грай, гармонік!». Члены журы пажадалі, каб у далейшым песня стала пастаянным сімвалам свята.

У рамках фестывалю прайшлі два конкурсы індывідуальных выканаўцаў і калектываў. Лаўрэатамі фестывалю сталі:

– гарманіст **Міхаіл Папруга** (Бярэзінскі раён. Прыз – гармонік);

– гарманіст **Валерый Цеўшчакоў** (Стаўбцоўскі раён, рэмні);

– цымбаліст **Сяргей Сальнік** (Маладзечанскі раён, керамічная ваза);

– прыпевачніца **Валянціна Шарапа** (Нясвіжскі раён, камплект абрусаў);

ансамбль народнай музыкі Селішчанскай ДМШ (Слуцкі раён, сервіз);

ансамбль народнай песні і музыкі "Случанскія святкі" (Слуцк, сервіз);

ансамбль народнай музыкі "Сакавінка" (Маладзечанскі раён, тэлевізар);

узорны ансамбль народнай музыкі "Пацешкі" (маладзечанская ДМШ, сервіз).

Бюджэт свята склаў прыкладна 5 мільёнаў рублёў. Аддзел культуры Мінскага аблвыканкома выдзеліў каля мільёна рублёў. Астатнія грошы з раённага бюджэту.

Члены журы адзначылі добрую арганізацыю фестывалю і пажадалі, каб ён традыцыйна праходзіў на Маладзечаншчыне. У аддзеле культуры райвыканкома нам сказалі, што фестываль "Грай, гармонік!" плануюць правесці праз год.

**Людміла МЯНЦЮК.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

Ансамбль «Аношкаўскія музыкі» з Нясвіжскага раёна на фестывалі «Грай, гармонік!».

Экспрэс-апытанне маладзечанцаў

# Бульбачка ўрадзіла?



**Уладзімір Сівец, пенсіянер:**

– Бульбу купляць трэба. На зіму для мяне з жонкай трэба каля 300-400 кілаграмаў. Да бульбы будуць грыбы. Хлеб павінен быць. Тлушчу купім, суп заскварым. Вось і ўся ежа.



**Наталля Зыранава, дэзінфектар:**

– Ураджай бульбы ніжэй за сярэдні. Але для сям'і хопіць. Праблема толькі, што бульба малая. Пажылыя людзі гавораць, што калі не заўважаюць мух, то бульбы не будзе. Сёлета мух амаль не было.



**Леакадзія Масевіч, работнік цэнтра гігіены і эпідэміялогіі:**

– І бульба, і капуста сёлета ўрадзіла. Купляць не будзем. І на сям'ю хопіць, і дзецям у Мінск таксама. Магчыма, у добры дзень пасадзіла бульбу, калі ўраджай такі добры.



**Аляксандр Філімончык, настаўнік фізвыхавання:**

– Не ўрадзіла толькі бульба, трэба будзе купіць кілаграмаў з 200. Абавязкова пайду на сельскагаспадарчы кірмаш. Вы перадайце просьбу ў калгасы – няхай прывозяць бульбы. І хацелася б, каб яна была таннейшая, чым на рынках.



**Вікторыя Жаровіна, настаўніца, і дачка Яна:**

– Сёлета слабая бульба. Сабралі менш, чым пасадзілі. Купіць трэба каля трох мяхоў.



**Міхаіл Карнавух, электрык, побач з ім дзеці Максім (злева) і Даша:**

– Калі што не ўрадзіла, то сам вінаваты. Усё ёсць, досведу і зямлі хапае. Можа, толькі мяшэчак бульбы купім.

Фотаапытанне падрыхтаваў **Юрый КАРПІЦКІ.**

# Экзотыка рынку

**Часам на рынку бачыш, што шмат "нашых" працуюць у "нярускіх". Людзей цікавіць, колькі зарабляюць гандляры ў месяц, як ім выплачваюць зарплату. Каб было больш зразумела, паспрабую ўнесці хоць нейкую яснасць.**

"Нашы" плацяць за работу ад 5 да 10% ад прыбытку ў дзень. А ў прадпрымальнікаў з–за мяжы устанаўліваюцца тарыфы на рэчы. Напрыклад, са скураной курткі ці футра (тое, што прадаецца за "варожыя" у. а.) атрымліваецца 1000–1500 умоўных зайцоў. Са звычайных куртак, джынсаў, красовак, спартыўных касцюмаў плацяць па 500 рублёў. Але акрамя гэтага, прадпрымальнікі дадаюць яшчэ 1000 рублёў за выхад на працу. Трэба мець на ўвазе і тое, што прадаўцы самі "зарабляюць на пражыццё", завышаючы цану на дзве–тры тысячы, і такім чынам атрымліваюць больш. Калі гандаль ідзе даволі добра, то "наварыць" можна да 10 тысяч рублёў, а то і да 20. Калі ўсё гэта падлічыць, атрымаецца недзе 100–200 тысяч рублёў у месяц, што складае даволі добры заробак для беларусаў.

Зразумела, працаваць на рынку даволі цяжка не толькі фізічна, але і маральна. Паспрабуйце ўявіць: розны менталітэт, характары, мовы. А колькі сіл трэба прыкласці, каб паставіць палатку і развесіць тавар!

Работа ў в'етнамцаў поўная ўсялякіх смешных і цікавых выпадкаў.

Па-першае, вымаўленне імі нашых слоў пакідае жадаць лепшага. Сярод тых, хто жыве ў Маладзечне, ёсць і такія, што маюць 10–15-гадовы "стаж" работы на рынку. Але адолець рускую мову змаглі толькі адзінкі, а пра беларускую і гаварыць няма чаго.

І, вядома, самае цікавае – паслухаць гаворку паміж в'етнамцам і беларусам. Наслухаешся новых слоў, націскаў, канчаткаў і выразаў, хоць новы слоўнік складай! А зразумець як? Не дзіва, што некаторыя пакупнікі просяць "перакласці". На сваёй роднай в'етнамскай мове яны гавораць так шпарка, што здаецца, усё зліваецца ў адно бясконцае слова.

Хачу прывесці некалькі прыкладаў з іх мовы, але прабачце, нашымі літарамі напісаныя:

"сінцяў" – добры дзень;
"там бэт" – да пабачэння;
"ме" – маці;
"дэн" – прыгожы;
"той" – добра;
"тот" ці "саў" – дрэнна;
"тхой" – заяц.

Па-другое, зачароўвае, як яны пераймаюць нашы традыцыі. У каго ж, як не ў нас вучыцца частаваць рознымі прысмакамі на святы (дні нараджэння, Новы год), ды яшчэ ў час работы? У каго ж яшчэ вучыцца піць гарэлку на святы і без іх? А мацюкацца ўголас пры людзях?

Напэўна, шмат хто чуў пра асаблівасці ўсходняй кухні. Што-што, а гатаваць розныя незвычайныя стравы яны ўмеюць. Чаго толькі варты смажаны селядзец!

Адным словам, экзотыка.

**Таццяна КВЕТНІКАВА.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Маладзечна, аўторак, калгасны рынак. Курткі – «нацыянальны» бізнес в'етнамцаў.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 4 кастрычніка | 11 кастрычніка |
|---|---|---|
| Долар | 1482,00 руб. | **1487,00** руб. |
| Нямецкая марка | 697,84 руб. | **694,26** руб. |
| Літ | 370,59 руб. | **371,83** руб. |
| Расійскі рубель | 50,28 руб. | **50,40** руб. |
| Злоты | 353,28 руб. | **357,49** руб. |
| ЕЎРА | 1364,85 руб. | **1357,85** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1480 – 1500 руб. | **1485 – 1500** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 3.10 | 10.10 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2500 | **2500** |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 8250 | **7190** |
| Сасіскі, 1 кг | 3180 | **3180** |
| Селядзец, 1 кг | 1750 | **1750** |
| Рыс, 1 кг | 530 | **530** |
| Грэчка, 1 кг | 420 | **420** |
| Цукар, 1 кг | 675 | **675** |
| Алей, 1 л | 1040 | **1000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 650 | **820** |
| Маянэз, 200 г | 270 | **270** |
| Кава "Пеле", 100 г | 1600 | **1600** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 550 | **550** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 500 | **480** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 320 | **350** |
| Капуста, 1 кг | 150 | **150** |
| Памідоры, 1 кг | 600 | **650** |
| Лімоны, 1 кг | 1600 | **1400** |
| Апельсіны, 1 кг | 1350 | **1300** |
| Кавуны, 1 кг | 250 | **400** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1300 | **1200** |
| Масла, 1 кг | 2400 | **2600** |
| Тварог, 1 кг | 1000 | **1000** |
| Малако, 1,5 л | 400 | **400** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1400 | **1300** |
| Бульба, 1 вядро | 1600 | **1500** |
| Морква, 1 кг | 300 | **250** |
| Журавіны, малое вядро | 4000 | **5000** |
| Яблыкі, 1 кг | 200 | **250** |

■ НАШЫ ГРОШЫ

# Поўны наперад

Падставай для заметкі паслужыў наступны факт. Разглядаючы вітрыну з лякарствамі ў адной з гарадскіх аптэк, выпадкова наткнуўся на ўпакоўку знакамітай "Виагры".

З'яўленне падобнага роду лякарстваў не здзівіла – за 10 год перыяду разброду і хістанняў прадаецца і прапануецца ўжо ўсё, на што ёсць попыт. Час, калі звычайныя прэзерватывы сціпла вывешваліся ў кіёсках дзе-небудзь у куце пад шыльдачкай "сродкі ад галаўнога болю" даўно мінуў, тавары падобнага тыпу цяпер усюды на відным месцы.

Уразіла, хутчэй, цана: адна таблетка, з якой і складаецца маляўнічая, з галаграмай, упакоўка заморскага сродку, каштуе 27040 рублёў, прыкладна, 19 долараў. Хто ж зможа сабе дазволіць такое? Тым больш, на кожны дзень. Прычына адна – каму патрэбна, той купіць, калі нашы традыцыйныя сродкі ўжо не дапамагаюць. Усё, што звязана з сексам (вышэйзгаданы прэпарат менавіта для гэтага) заўсёды і паўсюль каштуе дорага. Таму што заўсёды прыцягвае чалавека. Меркантыльныя буржуіны даўно зразумелі гэта, узялі на ўзбраенне і цяпер працвітаюць.

Секс-індустрыя, па ацэнках, мае легальны абарот у 60 мільярдаў долараў і яшчэ 30 мільярдаў – нелегальны (тыпу дарожнай і вакзальнай прастытуцыі). Кожны дзевяты долар, які зарабляецца ў далёкім Тайландзе, даюць мільёны секс-турыстаў, што прыбываюць у краіну і якіх абслугоўваюць 700000 прастытутак. У Вялікабрытаніі, якая славіцца сваімі кансерватыўнымі традыцыяміі, штогадовы абарот секс-клубаў складае 2 мільярды. Тысячы фільмаў, клубы, часопісы, відэа, секс па тэлефоне, дзяўчаты па выкліку – усё гэта паслугі секс-індустрыі. У любым прыстойным гатэлі ёсць спецыяльны порнаканал з тэлефонам і тарыфамі. Да секс-індустрыі адносіцца 450 тысяч найменняў выпускаемых прадметаў, толькі прэзерватываў – 300 відаў і густаў. Секс-турызм зрабіўся ключавым для краін Усходняй Еўропы, а Прагу наогул называюць спальняй кантынента – у Чэхіі працуюць 600 публічных дамоў, сярод 20 тысяч прастытутак пераважаюць украінкі і іншыя славянкі, якія выцеснілі філіпінак і таек. Без секс-паслуг даўно заняпалі б шырока рэкламуемыя аквапаркі і саўны.

Галандыя стала першай у свеце краінай, якая год таму адмяніла забарону на прастытуцыю і прыраўняла публічныя дамы да ўсіх суб'ектаў прадпрымальніцтва. Неабходны мінімум патрабаванняў аднолькавы: захаванне працоўнага і падатковага заканадаўства і выкананне санітарна-гігіенічных прадпісанняў. Гэта зроблена з мэтамі прадухілення эксплуатацыі дзяцей і, наогул, у барацьбе з прымусам да прастытуцыі. Інфармацыйная і камп'ютэрная рэвалюцыі толькі наблізілі і паскорылі задавальненне патрэбнасцяў – да 80% наведванняў Internet звязана з порнасайтамі.

Нашыя суседзі ідуць у супрацьлеглым накірунку – з 1 верасня гэтага года прастытуцыя на Украіне стала крымінальна каральным дзеяннем. Размова ідзе не пра сутэнёрства, за якое тут маглі караць і раней, а менавіта пра аказанне сексуальнай дапамогі за грошы. Злоўленыя прастытуткі будуць накіроўвацца на папраўчыя работы.

У Беларусі, як і пры Савецкай уладзе, працягваюць лічыць, што сексу і прастытуцыі няма. Нягледзячы на тратуарны публічны дом ад цырка да плошчы Перамогі з дзесяткамі начных "матылькоў", інтымныя шэрагі каля бараў і вакзалаў, аб'явы ў газетах і секс па тэлефоне. Усяго ў сталіцы на ўліку тысяча жрыц кахання. Такса – 15-25 долараў за гадзіну ў вулічных і 70-100 долараў у гасцінічных. Крымінальная адказнасць у нас прадугледжаная толькі за ўтрыманне прытонаў і зводніцтва. За год узбуджана 89 крымінальных спраў за сутэнёрства, 200 дамачак прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці. Пытанне легалізацыі секс-індустрыі ў нас ужо дэбатуецца. Цела даўно стала таварам, попыт нараджае прапанову. На жаль, сённяшняя эканамічная сітуацыя стварае ўмовы, пры якіх усё больш шукальніц лепшай долі могуць стаць прастытуткамі. Нехта думае, а нехто ўжо рашыўся.

Вяртаючыся да вышэйзгаданай таблеткі. Прадавец сказала, што папярэдняя партыя даўно прададзеная, хоць доза была ў два разы меншая, а цана прыкладна такая ж. Прадукцыя новага завозу ў продажы ёсць. Поўны наперад, мужыкі.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**




Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**У Швецыі з яе строгімі настроямі таксама ёсць месца для гэтага. Вітрына крамы з часопісамі.**

■ СПАЖЫВЕЦ

## Суд за тры кубаметры рэек

**МАЛАДЗЕЧНА. Цяпер ідзе судовы працэс паміж жыхаром горада і дрэваапрацоўчым заводам.**

У 1999 годзе маладзечанец заказаў на заводзе тры кубаметры рэек. На той момант яны каштавалі 18 тысяч рублёў. Аднак тавар спажыўцу не паступіў.

Мужчына звярнуўся ў Маладзечанскую арганізацыю па абароне правоў спажыўцоў. Старшыня гэтай арганізацыі **Уладзімір Клешч** гаворыць, што неаднаразова тэлефанаваў дырэктару завода па скарзе спажыўца. Дырэктар пераконваў у тым, што справа будзе вырашаная. Арганізацыя па абароне правоў спажыўцоў накіравала справу ў суд. На першае пасяджэнне ніхто з адміністрацыі не з'явіўся. Наступнае адбудзецца 19 кастрычніка.

**Людміла МЯНЦЮК.**

## Тысяча рублёў за месца на міні-рынках

**МАЛАДЗЕЧНА. З пачатку кастрычніка гарвыканком сваім рашэннем увёў аплату за гандлёвае месца на міні-рынках горада.**

Яна складзе 1000 рублёў за дзень. Як патлумачыў першы намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык**, гэтыя грошы пойдуць на ўтрыманне гэтых міні-рынкаў, якія пабудаваныя, у асноўным, за кошт горада. Не будуць плаціць тыя, хто будзе гандляваць прадуктамі, вырашчанымі на сваіх участках. Таксама вызваленыя прадпрымальнікі, якія дапамагалі будаваць рынкі. Да таго часу, пакуль яны не акупяць свае выдаткі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Самае грыбное месца

**МАЛАДЗЕЧНА. Парадаксальна, але найбольш грыбоў у самім горадзе. У парку за тэатрам лялек "Батлейка".**

Штогод у сезон дзесяткі маладзечанцаў збіраюць там сыраежкі, грузды, курачкі. Шмат-не шмат, але паўлітровы слоік на суп ёсць заўсёды.

Асабліва добра пенсіянерам, якія па стане здароўя не могуць ехаць у лес.

Аптымальны светлавы і тэмпературны рэжым (у гарадах на 1–2°C заўсёды цяплей, чам у наваколлі), падбор парод дрэў і з году ў год рэгулярная веснавая ачыстка парку ствараюць спрыяльныя ўмовы для грыбоў. Прынамсі, і збіраюць іх тут акуратна. Так што калі ў лесе вам не пашэнціць альбо станецца неўраджай, калі ласка, едзьце з кошыкамі ў горад.

**Алег БЯГАНСКІ.**



Фота Мікалая ЖОЎТКІ.

**Калі мы ўсе былі пад аднымі сцягамі. 1991 год, Вілейка, прадстаўнікі гарадскіх уладаў, гараджане на мітынгу.**

# Штраф за бела-чырвона-белы сцяг

**МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак гарадскі суд аштрафаваў гараджаніна Эдуарда Баланчука за выкарыстанне бела-чырвона-белага сцяга.**

Э. Баланчук павінен заплаціць 10 мінімальных заработных плат. Акрамя гэтага, суд вырашыў канфіскаваць сцяг. Пасяджэнне суда 8 кастрычніка праводзіў суддзя **Аляксандр Лужынскі**.

Падсудны не згодны з рашэннем суда і заявіў, што на працягу 10 дзён падасць апеляцыю ў абласны суд.

Гісторыя пачалася 1 верасня, падчас афіцыйнага адкрыцця ў Маладзечне помніка Агінскаму. Эдуард Баланчук прыйшоў з бела-чырвона-белым сцягам. Работнік міліцыі забраў сцяг і склаў пратакол аб адабранні. Баланчука абвінавацілі ў парушэнні артыкула $167^2$ **Адміністрацыйнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь (АК РБ). Там сказана, што пакаранне наступае за "карыстанне на сходах, мітынгах, вулічных шэсцях, дэманстрацыях і пікетаванні флагамі, вымпеламі, не зарэгістраванымі ва ўстаноўленым парадку".**

Э. Баланчук спасылаўся на адказ міністра юстыцыі **Генадзя Варанцова** №06-10/5478 ад 07.04.2000 г. Там зазначана, што, "згодна з лістом Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводстве РБ, бел-чырвона-белы сцяг з'яўляецца гістарычным сцягам Беларусі. У цяперашні час заканадаўствам не ўрэгулявана пытанне аб парадку і правілах выкарыстання гістарычных сцягаў Беларусі". А значыць, лічыць Э. Баланчук, "пытанне аб рэгістрацыі гістарычнага сцяга Беларусі ставіць неправамерна, бо ён не можа належаць ніякай юрыдычнай асобе (акрамя дзяржавы) і быць зарэгістраваны. Таму прымяненне артыкула $167^2$ АК РБ неправамоцнае. Эдуард Баланчук прасіў вярнуць сцяг і спыніць справу.

## Меркаванне юрыста

**Дзмітрый Каляда, Ашмяны:**

– Выкарыстоўваць бела-чырвона-белы сцяг на адкрыцці помніка Агінскаму было нельга, бо гэта падпадае пад вышэйзгаданы артыкул АК РБ.

Наконт канфіскацыі скажу, што ў нас могуць канфіскаваць усё. Цяжка гаварыць, калі не бачыш копію рашэння суда. Але мяркую, што пад канфіскацыю сцяга можна падвесці адпаведны артыкул.

У канкрэтнай справе многае залежала ад суддзі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ **АКЦЫІ**

# Прафілактыка СНІДу па-смаргонску

**СМАРГОНЬ. На мінулым тыдні адбылося пасяджэнне раённага міжведамаснага савета па прафілактыцы ВІЧ-інфекцыі, венерычных захворванняў і туберкулёзу.**

Намеснік старшыні райвыканкома **Святлана Шмыга** прапанавала адмовіцца ад прапанаваных вобласцю традыцыйных шляхоў правядзення сусветнага дня прафілактыкі СНІДу (1 снежня). Усім членам савета даручана ўнесці свае прапановы, бо смаргонцы не жадаюць капіраваць абласныя мерапрыемствы.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ.**

# Жанчыны Смаргоншчыны просяць падтрымаць добрыя сем'і

**СМАРГОНЬ. На мінулым тыдні прайшла справаздачна-выбарчая камісія жансавета раёна.**

На савеце жанчыны дамовіліся скіраваць увагу ўлады і прадпрыемстваў на падтрыманне менавіта добрых сем'яў. Бо заканадаўства зарыентаванае падтрымліваць "цяжкія" сем'і.

Тым больш, што старшыня жансавета раёна **Святлана Шмыга** з'яўляецца намеснікам старшыні райвыканкома.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ.**

■ **ПОСТФАКТУМ**

# Як жыць далей?

## Прэзідэнцкія выбары – пройдзены этап.

Надзеі дэмакратычнай часткі беларускага грамадства на магчымыя прагрэсіўныя перамены, на жаль, не здзейсніліся. Дзеючая ўлада, пабудаваная па жорсткай схеме цэнтралізавана-наменклатурнага падпарадкавання, скарыстаўшы ўвесь арсенал адміністрацыйнага рэсурсу, вырвала ў грамадства перамогу і захавала сябе, па крайняй меры, на бліжэйшую пяцігодку.



Фота IREX/ProMedia.

**На дарозе…**

Апазіцыйныя дэмакратычныя партыі, грамадскія арганізацыі і іншыя інстытуты адкрытай грамадзянскай супольнасці, у тым ліку, незалежныя СМІ, вымушаныя будуць лічыцца з гэтым горкім для сябе фактам. Ім трэба будзе дзейнічаць у гранічна складаных умовах, якія, хутчэй за ўсё, будуць пагаршацца.

Ужо сёння відавочна, што ўлада, якая самазахавалася, настроеная на далейшае ўдасканаленне і ўмацаванне сваіх абарончых антыдэмакратычных "збудаванняў". Асаблівае месца ў гэтых фартыфікацыйных работах адводзіцца сродкам масавай агітацыі і прапаганды (СМАП). У ходзе прэзідэнцкай выбарчай кампаніі стала канчаткова ясна, што шырокамаштабная манапалізацыя "дзяржаўных" друкаваных выданняў, радыё і тэлебачання дасягнула свайго апагею і наблізілася да абсалюту. Таму мы можам гаварыць пра поўнае перараджэнне "дзяржаўных" СМАП і пераходзе іх у новую якасць: газеты, радыё і тэлебачанне ператвораныя ў чыста ведамасныя (цэнтральных, абласных і раённых структур улады) масава-прапагандысцкія інфармацыйныя сродкі. Адпаведна вызначаная структура "вертыкальнай" падпарадкаванасці і адпаведнасці кіраўнікоў і іншых служачых гэтых сродкаў.

Як гэта ні сумна асэнсоўваць, журналістыка, як адна са свабодных грамадскіх прафесій, у гэтых ведамасных органах прапаганды спыніла сваё існаванне. Многім з тых, хто па інерцыі будзе называць сябе журналістам, у хуткім часе давядзецца сутыкнуцца з абсалютнай залежнасцю ад уладных ідэолагаў і, адпаведна, ад няўмольных цэнзараў. Журналіст, вымушаны беспярэчна выконваць волю ўлады, ужо не журналіст, а толькі афарміцель гэтай волі.

У такіх умовах можна прагназаваць рэзкае абвастрэнне стасункаў (саперніцтва) двух відаў інфармацыйных крыніц – ведамасных і незалежных СМІ. Калі намаганні першых арыентаваныя на аднабокую ідэалагічную апрацоўку грамадскай свядомасці ("глыбіннае замбіраванне") з мэтай стварэння стану татальнага аднадумства, то задача незалежных СМІ дэмакратычнай арыентацыі – дыяметральна супрацьлеглая. Сярод прыярытэтаў незалежнай журналістыкі, на наш погляд, можна вылучыць наступныя накірункі.

Па-першае, як і раней, аб'ектыўнае інфармаванне пра ўсе бакі жыцця грамадства і дзяржавы, максімальна поўнае і ўзважанае адлюстраванне падзей унутры краіны і за яе межамі.

Па-другое, крытычны аналіз узаемаадносінаў, што узнікаюць у структуры чалавек – грамадства – дзяржава. Гэты аналіз павінен закранаць розныя сферы: эканоміку, палітыку, права, культуру і інш.

Па-трэцяе, давядзенне праўдзівай і непрадузятай інфармацыі да шырокіх слаёў грамадскасці і ў выніку, наколькі гэта магчыма, нейтралізацыя антыграмадскай дзейнасці ведамасных СМАП.

Па-чацвертае, захаванне ўсіх мер перасцярогі. Гэта мае на ўвазе прытрымліванне нормаў дзеючага заканадаўства нават тады, калі незалежныя журналісты лічаць, што яно антыдэмакратычнае і не адпавядае міжнародным стандартам у галіне свабоды слова.

Па-пятае, праяўленне карпаратыўнай салідарнасці. Любы "наезд" уладных структур або асобных чыноўнікаў на незалежную прэсу павінен расцэньвацца як напад на сваё выданне. Павінен дзейнічаць прынцып "інфармацыйнага бумеранга" з максімальна шырокім апавяшчэннем грамадства пра сапраўдныя прычыны чарговага "наступлення" уладаў на незалежныя СМІ.

Вяртаючыся да прэзідэнцкіх выбараў, трэба мець на ўвазе, што іх наступствы яшчэ доўга будуць даваць пра сябе знаць. І, верагодней за ўсё, яны будуць праяўляцца ва ўзмацненні канфліктнасці паміж безабаронным грамадствам і ўзброенай дзяржавай. Пры гэтым адной з галоўных прылад дзяржавы будуць заставацца ягоныя ідэалагічныя прапагандысцкія органы, надзейна абароненыя ўладай і фактычна непадсудныя. Менавіта яны ўнеслі асноўны ўклад у інфармацыйнае забеспячэнне "элегантнай" перамогі і цяпер будуць замацоўваць яе плады.

Можна не сумнявацца, што стан палітыка-прававога і сацыяльнага канфлікту ў краіне будзе напаляцца і далей: старой-новай уладзе жыццёва неабходнае хоць унутранае, але ўсеагульнае прызнанне яе легітымнасці. Любыя сумненні на гэты конт будуць трактавацца не інакш, як "антынародныя" і "варожыя". А сумненні, выказаныя публічна (што можна зрабіць толькі ў незалежных СМІ), могуць трактавацца, цалкам магчыма, як знявага і паклёп у адрас "народнага выбранніка" або наогул як "антыдзяржаўная" прапаганда і агітацыя. На гэты конт прадугледжаныя строгія санкцыі ў дзейнічаючым заканадаўстве і, ў прыватнасці, у Крымінальным кодэксе. Гродзенская "Пагоня", пінская "Правінцыялка" ужо адчулі на сабе павевы "новага парадку".

Большасць незалежных беларускіх газет, якія прымалі актыўны ўдзел у выбарчай кампаніі, адзначаюць павышаную ўвагу да сябе з боку ўладных структур, асабліва на рэгіянальным узроўні. Цяпер у кампанію па іх дыскрэдытацыі ўключаюцца і падведамасныя ўлады СМАП. У пэўнай ступені, гэта новы этап разгорнутага наступлення ўладаў на свабоду слова, на правы і прафесійную незалежнасць недзяржаўных мас-медыя дэмакратычнай арыентацыі. Калі раней "дзяржаўныя" газеты, радыё і ТБ толькі эпізадычна вуснамі сваіх найбольш адыёзных "каментатараў" і "аналітыкаў" шпурлялі камяні ў агарод свабоднай прэсы, то цяпер гэта ператвараецца ў практыку. Падобна, пачынаюць збывацца абяцанні галоўнага прэтэндэнта на прэзідэнцкі пост: "разабрацца з усімі пасля выбараў". Але як бы тое ні было, свабоднай прэсе трэба будзе працягваць сваю, вялізнай грамадскай важнасці, дзейнасць.

Мінулыя выбары, у адрозненне ад "парламенцкіх" 2000 года, паказалі, што многія незалежныя СМІ больш адказна і прафесійна падышлі да асвятлення гэтай важнейшай падзеі ў жыцці грамадства і дзяржавы. Менавіта актыўнасць свабодных журналістаў стала галоўнай прычынай нападак на іх са старонак ведамаснай прэсы, з радыё- і тэлеэфіру. Дэзінфармацыі і надуманым абвінавачванням у "прадузятасці" незалежныя СМІ могуць (і павінны!) супрацьпаставіць дакладныя і зразумелыя грамадскасці контраргументы. Трэба зыходзіць з таго, што з заканчэннем прэзідэнцкіх выбараў канец свету не надышоў. Жыццё працягваецца, значыць, не спыняецца і пошук ісціны.

Калі гаварыць вобразна, то сродкі масавай інфармацыі, іх ролю ў выбарчым працэсе можна вызначыць у якасці "пятага элемента", неабходнага для актывізацыі ўсіх астатніх элементаў гэтага працэсу. І гэта – не адзіная функцыя СМІ. Яны прызваныя не толькі азнаёміць патэнцыяльных выбаршчыкаў з усімі ўдзельнікамі выбарчай барацьбы, але і забяспечыць праз інфармаванне яе празрыстасць, сумленнасць і прыстойнасць. Яны павінны выконваць ролю грамадскага назіральніка, кантралёра і інфарматара адначасова. У сістэме выбараў для прэсы не можа быць закрытых месцаў.

Вось чаму для нядобрасумленнай улады, якая імкнецца да "перамогі любой цаной", незалежныя СМІ ў літаральным сэнсе слова – костка ў горле. Такая ўлада пачынае шумець пра "двайныя стандарты" адразу ж, як толькі яе пачынаюць прымушаць захоўваць агульнапрызнаныя правілы. Гэтая ўлада жадае праводзіць выбары выключна па сваіх "асабістых" правілах. Але так не бывае і не будзе, калі мы хочам жыць у сям'і цывілізаваных краін і народаў.

Усе спробы ўладаў паставіць незалежныя СМІ на калені, задушыць у краіне свабоду слова – гэта міжнародны прысуд самой уладзе, якая намагаецца схаваць сваю існасць пад псеўдадэмакратычнай фразеалогіяй. Беларускае грамадства ўжо прыйшло да разумення, што такі рудымент савецка-камуністычнай эпохі, як "дзяржаўныя" СМІ, даўно павінен заняць сваё месца на паліцах гісторыі.

**Міхаіл ПАСТУХОЎ, Юрый ТАПАРАШАЎ, эксперты па СМІ пры Кансультатыўным савеце апазіцыйных палітычных партый.**

■ МІНІ-ФУТБОЛ

# Гуд бай, міні-футбол

## Маладзечанскі клуб адмовіўся ад удзелу ў чарговым чэмпіянаце

Некаторыя гульцы ўжо заяўленыя за іншыя клубы (**Дзмітрый Мацюк** у "Дарожніку", **Аляксандр Снятко** ў "Белаграпрамбанку"). На гэтым тыдні канчаткова высветліцца лёс астатніх гульцоў. Магчыма, **Дзмітрый Янель, Аляксей Шаўчэнка, Ігар Кіркіж, Генадзь Бахур, Сяргей Кузняцоў** і **Дзмітрый Агейчык** працягнуць кар'еру ў расійскім клубе па футзале (версія ФІФУСА) з Якуцка. Цалкам верагодна, што гэты клуб будзе базіравацца ў Мінску, выязджаючы на туры (запар некалькі матчаў у адным горадзе) ў Расію. Мяркуецца, што футбалісты пяройдуць у новыя клубы на правах арэнды, каб можна было сабраць іх на наступны сезон.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Конкурс

**Паўтараем пытанні першага этапа нашага конкурсу для аматараў і знаўцаў футбола. Нагадаем, што за правільны адказ налічваецца 1 ачко. Усяго будзе 4 этапы конкурсу.**

**У якасці прыза бар "Тайм-аўт", што размешчаны на стадыёне (справа ад галоўнага ўвахода), на кожны этап выстаўляе 2 літры піва. Выйграе той, хто дасць найбольшую колькасць правільных адказаў.**


Фота з Internet-архіва «РГ».

### Пытанні першага этапа

**Міжнародны футбол**

**1. Зборная якой краіны былога сацыялістычнага лагера гуляла ў фінале чэмпіянату свету?**
А – Балгарыя, Б – Венгрыя, В – Польшча, Г – СССР.

**2. Дзе разыграныя ўжо ўсе пуцёўкі на чэмпіянат свету-2002?**
А – Азія, Б – Афрыка, В – Еўропа, Г – Паўднёвая Амерыка.

**Беларускі футбол**

**3. Колькі беларускіх футбалістаў заяўленыя за клубы топ-чэмпіянатаў (Англія, Германія, Іспанія, Італія, Францыя)?**
А – Адзін, Б – Два, В – Тры, Г – Чатыры.

**4. Хто быў чэмпіёнам СССР у складзе мінскага "Дынама", але не трэніраваў потым гэты клуб?**
А – Міхаіл Вергяенка, Б – Георгій Кандрацьеў, В – Юрый Курненін, Г – Людас Румбуціс.

**Рэгіянальны футбол**

**5. Павел Шаўроў у гэтым сезоне ў складзе "Маладзечна-2000"**
А – зусім не гуляў, Б – гуляў толькі за "аснову", В – гуляў толькі за дубль, Г – гуляў і за "аснову", і за дубль.

**6. Досвед выступленняў і за "Маладзечна", і за "Смаргонь" мае**
А – Уладзімір Варатнікоў, Б – Уладзіслаў Дукса, В – Максім Пясецкі, Г – Аляксей Шпілеўскі.

**Вядучы конкурсу Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**15 кастрычніка – апошні дзень атрымання адказаў.**
**Можна прысылаць адказы на E-mail konkurs@tut.by**

■ ВЕЛАРАЛІ


Перад стартам «Маладзечанскай восені». Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

# Маладзечанская восень

**МАЛАДЗЕЧНА. 7 кастрычніка прайшлі дзесятыя абласныя асабова камандныя спаборніцтвы па веларалі "Маладзечанская восень". Брала ўдзел 15 каманд (118 чалавек) з Маладзечна, Вілейскага, Лагойскага, Барысаўскага раёнаў, гарадскога пасёлка Плешчаніцы і Мінска. Веласіпедысты праходзілі дыстанцыю (з кантрольнымі пунктамі) у 75 кіламетраў, якая падзеленая на 2 этапы: 25 і 50 кіламетраў.**

Прызёрамі спаборніцтваў сталі

у камандным заліку:

"Рэха", БДУ (Мінск) – 1 месца

"Паехалі" (самая шматлікая – 22 чалавекі, Мінск) – 2 месца

гарадская каманда Барысава – 3 месца

Сярод мужчын:

Увесь п'едэстал занялі хлопцы з каманды "Рэха БДУ" (**Вадзім Гаўрылькоў, Максім Ярмохін, Аляксандр Навумаў**).

Сярод жанчын:

**Кацярына Кудрэвіч** (Лагойскі раён) – 1 месца

**Анастасія Мікуловіч** (Барысаў) – 2 месца

**Таццяна Гурыновіч** (Мінск) – 3 месца

Грашовыя прэміі атрымалі пераможцы ў асабістым заліку. Прызёраў узнагародзілі ганаровымі граматамі і падарункамі.

Дырэктар маладзечанскага турклуба "Пілігрым" **Сяргей Бялкоў** расказаў, што маладзечанец **Вячаслаў Вянглоўскі** прайшоў дыстанцыю разам з двухгадовым унукам **Вадзімам**, а самага пажылога ўдзельніка – 64-гадовага **Алега Бакавога** ўзнагародзілі парасонам і пачкам гарбаты.


Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.
**Удзельніца веларалі, настаўніца беларускай гімназіі Аксана Свярская.**

Чацверты год настаўнік Гайніцкай СШ Лагойскага раёна **Віктар Дубко** і ягоныя вучні, у адрозненне ад іншых удзельнікаў, прыязджаюць у Маладзечна на веласіпедах. Тым самым яны "накручваюць" дадатковыя 160 кіламетраў.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## На гэтым тыдні гуляюць

**13.10 16-00 Смаргонь – Трактар (Мінск)**
+2=1-2 9-5. У першым крузе 4:1 (Шпакоўскі, Каўрыга, Шаблінскі, Відук) на выездзе

**13.10 15-00 Забудова – Старыя Дарогі**
+3=1-1 9-5. У першым крузе 2:1 (Мірановіч – 2) на выездзе

**14.10. 1/8 Кубка. Гомель – Маладзечна-2000**
У чэмпіянатах: +3=4-6 7-12. Сёлета 1:0 (Кабельскі) дома і 0:3 на выездзе

**17.10 Старыя Дарогі – Смаргонь**
+1=2-2 6-8. У першым крузе 1:1 (Шпакоўскі) дома

**17.10 Вертыкаль (Калінкавічы) – Забудова**
+0=0-1 1-3. У першым крузе 1:3 (Мірановіч) дома

**17.10 15-00 (дубль) Маладзечна-2000 – Тарпеда-МАЗ (Мінск)**
+0=0-1 1-2. У першым крузе 1:2 (Антановіч) на выездзе

**18.10 15-00 Маладзечна-2000 – Тарпеда-МАЗ (Мінск)**
+2=9-6 15-17. У першым крузе 0:1 на выездзе

## Табло

■ ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

**10.10 Лакаматыў-96 (Віцебск) – Маладзечна-2000 1:1 (0:1).**

Галы: (75); Міхалёў (40).

Склад: Рубацкі, Сарасек, Кабельскі, Бычкоўскі, Сысой, Мігас, Азаронак, Сідарэнка, Карпіленка (Лявончык, 53), Міхалёў (кап.) (Смірноў, 46), Турчыновіч (Макрыцкі, 65).

Папярэджанне: Азаронак

Тарпеда-МАЗ – Днепр-Трансмаш 0:0, Белшына – Нёман-Белкард 0:0, БАТЭ – Славія 3:2, Дынама (Б) – Гомель 0:3, Нафтан-Дэвон – Дынама (М) 1:2, Ведрыч-97 – Шахцёр 0:3.

ФК "Маладзечна-2000" знаходзіцца на 11-м радку і мае 22 ачкі.

■ ДРУГАЯ ЛІГА

**07.10 Верас (Нясвіж) – Смаргонь 2:0 (0:0)**

Галы: (78), (81-пен)

Склад: Шэлест, Іваноў, Чарнуха, Якубіцкі, Пагоцкі, Шпілеўскі (Кошаль, 46), Дукса, Селіванаў, Дзігілевіч, Шагойка (Паркулевіч, 78), Шпакоўскі

**07.10 Трактар (Мінск) – Забудова 4:0 (2:0)**

Галы: (3), (11), (83), (90)

Склад: Мядзведзеў, Чарнель, Д. Мятліцкі, Ал. Канапелька, Ан. Канапелька (Фалей, 87), Урублеўскі, Мірановіч, Садчанка, М. Мятліцкі (Бяспалы, 58), Івашкевіч,Ваўчок

На 71-й хвіліне футбаліст "Трактара" не рэалізаваў пенальці (штанга)

1. Лакаматыў .................... 67
2. Смаргонь ..................... 64
...
8. Забудова (+1) .............. 41

■ ДУБЛЬ

**09.10 Лакаматыў-96 – Маладзечна-2000 2:1 (0:0)**

Галы: (74), (76); Вільтоўскі (71)

Склад: Сцепановіч, Дрозд, Відрук, Альховік, Ваўчок (Пятроўскі, 86), Лявончык, Антановіч, Багайчук (Асіповіч, 86), Вільтоўскі, Макрыцкі (Харэцкі, 46)

■ ПЛАВАННЕ

**МІНСК. Прайшоў адкрыты чэмпіянат краіны па плаванні на спрынтэрскіх дыстанцыях.**

Як павялося, удала выступілі маладзечанскія брасісты. **Анастасія Лях** першынствавала на 50 м і на 100 м. **Віталь Барташэвіч** быў трэцім на "стометроўцы". Камбінаваная эстафета 4#50 з Мінскай вобласці была мацнейшая і ў жанчын, і ў мужчын.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ

МЯДЗЕЛ. Чэмпіёнам раёна па футболу стала каманда Мядзельскага РВП ЖКГ. У гэтым сезоне яна зрабіла дубль: раней заваявала і Кубак раёна.

■ БЕГ

МЯДЗЕЛ. Андрэй Паспелаў з райцэнтра заняў другое месца на дыстанцыі 20 км ў абсалютным заліку на традыцыйным прабеге памяці Пятра Машэрава ў Сянно.

■ ЛЫЖІ

МЯДЗЕЛ. У Раубічах адбыўся чэмпіянат краіны па летняму дваябор'ю сярод лыжнікаў.

Складалася яно з кросу і бегу на лыжах–ролерах. Выхаванка Мядзельскай СДЮШАР Ірына Нафрановіч заняла першае месца сярод юніёрак.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ МЕРКАВАННЕ

# Мінскі ФК «Маладзечна», маладзечанскі ФК «Беразінскае», чысцінская «Забудова»

**Чаму ў асноўным складзе ФК «Маладзечна-2000» гуляюць толькі 1–2 маладзечанцы? Чаму ФК «Беразінскае» называюць беразінцамі, а там толькі тры «абарыгены»? Чаму яны ў чэмпіянаце Мінскай вобласці ў лідэрах, а «Забудова» са сваім складам толькі ў сярэдзіне?**
**На кожнае пытанне ёсць адказ. Пачнем з вышэйшай лігі і скончым першынством вобласці.**

Мінскі ФК "Маладзечна-2000" не мог і не можа на гэты момант стаць маладзечанскім. Тое, што адбывалася на працягу апошніх год, пакінула свой адбітак на клубе. Прыход **Людаса Румбуціса** са сваімі футбалістамі з'яўляецца ўжо вялікім шчасцем для горада. Няхай цяпер у складзе прозвішчы толькі **Макрыцкага** і **Ваўчка** вядомыя аматарам футбола з азначэннямі "свае, родныя". Неабходнасць патрэбнага выніку і адсутнасць канкурэнтаздольных гульцоў Маладзечаншчыны прывялі да таго, што каманда стала фактычна іншагародняй. Галоўнае тут іншае – яна ўвогуле мае права жыць.

Адсутнасць маладзечанцаў у клубе перакрэслівае турнір дублёраў. Дубль каманды – гэта свае, маладыя, перспектыўныя і пакуль не гатовыя да якой-ніякой вышэйшай лігі чэмпіянату РБ гульцы. Але яны гуляюць, растуць і, галоўнае, бачаць перспектыву. Маладзечна з вышэйшай лігай развітвацца не збіраецца, а гэта значыць, што ў іх яшчэ ўсё наперадзе. Цяпер на першы план выходзіць работа падапечных **Аляксандра Гармазы** на трэніроўках і гульнях. Адзін факт гаворыць сам за сябе: у апошнім матчы з "Нафтанам" самы старэйшы маладзечанец (хто выйшаў з першых хвілін) у камандзе саперніка быў бы амаль самы малодшы. Поспех адразу на галаву не валіцца, а на ўмовы грэх скардзіцца. Калі сітуацыя ў клубе не пагоршыцца, ёсць шанц, што аматары футбола ў будучым будуць назіраць за гульнёй сваіх знаёмых і лічыць на пальцах адной рукі легіянераў.

"Забудову" нельга аднесці да нечага аднаго. Шэраг гульцоў з Маладзечна ўжо даўно выступаюць за Чысць, і іх у гэтым плане можна назваць мясцовымі. Прыезджых таксама хапае, але гэта выклікана таксама неабходнасцю з-за належнай адсутнасці сваіх. Трэба адзначыць, што з моладдзю таксама працуюць. Падключаюць да гульні **Фалея, Бяспалага, Маціеўскага**. Можа, яны яшчэ і не гатовыя нават да ўзроўню 2 лігі, але ўжо ідзе працэс станаўлення. Вядома, можна ўвесь час гаварыць пра нестабільнае становішча клуба, пра праблемы з гульнёй, але ж яны працягваюць выступаць. Прычым, калі патрэбна, выкарыстоўваюць свае кадры. У каманды сваё жыццё. На працягу апошніх сезонаў чысцінцы фінішуюць у сярэдзіне табліцы –не ніжэй, не вышэй. А гэта таксама паказчык. Парадокс: з нестабільнасцямі ў складзе – стабільныя вынікі.

Ну, і зусім здзіўляе на фоне ўжо двух згаданых ФК "Беразінскае". Першая ліга Мінскай вобласці, амаль аматарскі футбол, удзел клубаў у турніры накіраваныя на развіццё спорту ў сваіх мястэчках. У Беразінскім ідзе адваротны працэс. Футбольны цэнтр раёна са штогадовым (акрамя гэтага) турнірам па міні-футболе каціцца ў невядомым напрамку. Хаця, напрамак вядомы – горад Маладзечна. Усе сродкі ПРУП "Беразінскае" укладае ў гарадскія таленты, бо ў клубе толькі тры беразінцы, гульцы, у асноўным, запасу. Ад таго, што каманда ў лідэрах, мястэчку ні горача, ні холадна. Балельшчык ужо прывык глядзець на бліскучую гульню **Янеля** і К° (а іншай на такім узроўні і быць не павінна) і задаваць кожны раз пытанне **Сачуку** і братам **Аўдзевічам**, чаму яны ў запасе. Няхай яны саступаюць у майстэрстве таварышам, але ж жыхары Беразінскага прыходзяць глядзець на сваіх знаёмых. Вынікам можна прыкрыцца, але ж гэта бескарысны ўдзел, накіраваны ўжо сказана на што. А футбалістаў у мястэчку з кожным годам усё менш. Ды і моладзі няма куды імкнуцца. Здаецца, родная каманда, а там усе чужыя, сярод якіх пачаць добра гуляць складана. Ёсць вынік, і ўжо няма беразінскага футбола. Што тут сказаць, калі кіраўніцтва клуба ледзь не адмаўляецца ад фіналу раёна (сапраўднае Беразінскае едзе гуляць у Чысць з "Забудовай"), каб адправіць другое маладзечанскае "Беразінскае" у Мар'іну Горку на чарговы тур чэмпіянату.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

